


# БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ І ГІСТОРЫЯ

## Праект выкладу патрабаваньняў студэнцтва галіне гісторыі

Гісторыя наканавала нашаму народу трагічны і гараічны лёс, але найбольш — трагічны. 140 крыжацкіх нашэсьцяў, 95 крымскататарскіх навалаў, 200-гадовая вайна з Масковіяй, I і II Сусьветныя войны, сталінскі генацыд — вось тыя церні, прадзіраючыся скрозь якія наш народ часам губляў больш за палову свае колькасьці. Але людзкія страты, хоць і не заўсёды, але можна зьлічыць, ды вось як зьлічыць страты культурныя, духоўныя, этнапсыхолёгічныя? Хто зьлічыць, як пацярпеў нацыянальны дух беларусаў? Хто скажа, колькі гэніяў, колькі Скарынаў, Купалаў, Багдановічаў ды Караткевічаў не нарадзіла наша зямля, загойваючы крывавыя раны, атрыманыя праз звады і бойкі паміж хцівымі маскоўскімі імпэрыялістымі-русіфікатарамі, польскімі экспансыяністымі-полёнізатарамі дый іншымі драпежнікамі, што грызьліся паміж сабой за права валоданьня нашай Бацькаўшчынай? Колькі нашых гэніяльных суайчыньнікаў сталіся гонарам іншых культураў ды краінаў, пакуль наша Айчына, зьнясіленая, абылганая і апляваная, з ласкі далёкіх і блізкіх суседзяў пакутавала пад чужынскім ярмом? Хто скажа? Апрача нас саміх — ніхто! Скажам мы, самі, беларусы, без чыіхсьці ласкі і дазволу! Толькі ўсьведамленьне ды асэнсаваньне кожным беларусам велічнага пакутна-трагічнага шляху нашага народа на працягу ягонае тысячагадовае гісторыі можна спрычыніцца да кансалідацыі беларускае нацыі, можна зрабіць яе жыцьцядзейнай і жыцьцяздольнай, можа гарантаваць будучыню народу, які, праз стагодзьдзі цярпячы крывавыя навалы, гвалт, глум, ману і зьдзек, усё яшчэ трывае з апошніх сілаў і ўсё яшчэ спадзяецца лепшае будучыні.

Мы за стварэньне навуковай беларускай гісторыі з пазыцыяў беларусаў, бо <u>кожны</u> народ мае права на <u>сваю</u> гісторыю, пісаную зь ягоных <u>уласных</u> пазыцыяў, а не з пазыцыяў суседзяў.

Мы цалкам падтрымліваем Праграму і задачы "Мартыралёга Беларусі".

Мы за тое, каб беларуская гісторыя сталася дамінуючым стрыжнем у сістэме выхаваньня і асьветы маладога пакаленьня беларусаў.

Мы за пераемнасьць беларускае гісторыі сярод іншых галінаў гісторыі /гісторыя СССР, новая гісторыя і г.д./ у сістэме сярэдняй і вышэйшай адукацыі на Беларусі.

Мы за карэнную перабудову, дэмакратызацыю і "плюралізацыю" выдавецкай

палітыкі на Беларусі ў галіне грамадзкіх навук.

Мы за карэнную перабудову музэйнае справы на Беларусі.

Мы за перабудову і дэмакратызацыю манументальнае прапаганды на Беларусі.

Мы за вяртаньне усіх без выключэньня гістарычных назваў, у розныя часы страчаных нашай Бацькаўшчынай. Мы за вяртаньне гістарычнай назвы сучаснае сталіцы БССР -- Менску. Мы за кантроль народа ў справе наданьня новых і зьмены старых назваў.

Мы за вяртаньне на Беларусь усіх культурных ды гістарычных каштоўнасьцяў, дакумэнтаў і матар'ялаў, вывезеных у апошнія стагодзьдзі з нашае Бацькаўшчыны.

Мы за актыўнае супрацоўніцтва з прагрэсыўнай беларускай эміграцыяй у галіне гісторыі і культуры.

**Запрапанаваў Т. Х:Б.**




# У ДУХУ ЗАСТОЙНАГА ЧАСУ

**Мікола Ермаловіч**

Заканчэньне. Пачатак у № 3.

Ня менш спрошчаныя былі погляды Л.Абэцэдарскага на ўтварэньне Вялікага княства Літоўскага /ВКЛ/ і характар гэтай дзяржавы. В.Мялешка і З.Капыскі дарэмна прыпісваюць яму памылковае сьцьверджаньне аб утварэньні ВКЛ у XII стагодзьдзі на тэрыторыі сучаснае Літвы. Гэтае меркаваньне, не падцьверджанае фактамі, панавала ва ўсёй дакастрычніцкай гістарыяграфіі. Адтуль жа запазычаныя сьцьверджаньні Л.Абэцэдарскага пра захоп літоўскімі князямі беларускіх земляў. Пад выглядам барацьбы з фальсіфікатарамі гісторыі Беларусі, імёны і працы якіх ён не называе, ён усяляк прыніжаў ролю беларускага народу ў гэтай дзяржаве.

Так, для яго нічога ня значыла, што беларусы складалі большасьць насельніцтва і што беларуская мова была дзяржаўнай у ВКЛ /"У сьвятле неабвержных фактаў", 1969, сс. 17-19/. А вось тое, што вялікія князі былі літоўцамі з паходжаньня, для яго гэта было больш важным доказам літоўскага панаваньня /там жа с. 23/, хаця, як устаноўлена дасьледчыкамі, аніводнае імя так званых літоўскіх князёў не тлумачыцца літоўскай мовай.

Цяжка сказаць, з прычыны свайго невуцтва ці наўмысна ён у гэтых пытаньнях абыходзіў вядомае выказваньне Ф.Энгельса, які адкінуў розныя беспадстаўныя домыслы ды ўказаў на мірнае аб'яднаньне беларускіх, украінскіх і літоўскіх земляў: "У той час, калі Вялікаросія папала пад мангольскае іга, Беларусь і Малаdo росія знайшлі сваю абарону ад азіяцкага нашэсьця, далучыўшыся да гэтак званага Літоўскага княства". /Соч. т. 22, сс. 18-19/.

Сапраўды, няма ніводнае пісьмовае крыніцы, якія б сьцьвярджалі факт заваяваньня літоўскімі князямі беларускіх земляў. З прыведзенага выказваньня відаць, што Ф.Энгельс лічыў гэтую дзяржаву літоўскай толькі па назве, што так і было. Уласна літоўскія землі займалі толькі дзесятую частку ўсёй тэрыторыі дзяр-

Альгерд Пакалюбіч

## Мужчынскія імены

...А...

1. Адам – адно з самых папулярных на БеларусI Iмёнаў. ТолькI ў XVI ст. ўзгадваецца ў помнIках пIсьменнасьцI 110 разоў /М.БIрыла. Беларуская антрапанIмIя. Мн.,1966,далей:Б.А.66г./. Яго насIлI такIя знакамIтыя людзI, як:
   - Адам МIцкевIч;
   - Адам ГIнор Кіркор, грамадзкI дзеяч, публIцыст, выдавец I гIсторык XIX ст.;
   - Адам ГIляры ГурыновIч, паэт-дэмакрат, фальклярыст, рэвалюцыянер XIX ст.;
   - Адам СтанкевIч, выдатны беларускI сьвятар, гIсторык I публIцыст, лIдэр Беларускай Хрысьціянскай ДэмакратыI, закатаваны сталIнIстамI.

   Адась /-ка/, Адамчык, Адамей /Дамейка/, Адаш, Адамец, Адамка.

2. АДВАРД – Iмя належала:
   - Адварду ЖалIгоўскаму, паэту, фIлосафу, рэвалюцыйнаму дзеячу XIX ст.;
   - Адварду ПаўлавIчу, удзельнIку паўстаньня 1863 г.:,
   - Адварду Пякарскаму, славутаму падарожнIку XIX ст.

   Адзя, ВарцIк, Варас, Вартэ, Эдаш /Едрусь/.

3. АДЗIЯН – пазначанае ў выданьнI "М.БIрыла. Беларуская антрапанIмIя, Мн., 1969", далей: Б.А.69г.

   Адзя, гл. на Яна.

4. АЗАР – у помнIках XVI-XVII ст.ст. ўзгадваецца 9 разоў /Б.А.66г./
   - Азар, 1614 г., АршанскI павет;
   - Азар КлючнIк, 1681 г., МагIлеў.

   Азарка, Зарук, Азарчык, Зарыш.

5. АЛАIЗ – пазначанае ў выданьнI "СлоўнIк асабовых уласных Iменаў. Мн. 1965, укл. М.Р.СуднIка", далей: С.С.65 г.

   Алюк, Зарук, Алёйза ...

6. АЛЕСЬ – вельмI распаўсюджанае Iмя. У XVI-XVII ст.ст. зафIксаванае 143 разы ў розных варыянтах. Належала:
   - Алесю Гаруну, паэту XX ст;,
   - Алесю ГурбIсу, грамадзкаму ды тэатральнаму дзеячу XX ст.,
   - галоўнай постацI рамана У.КараткевIча "Каласы пад сярпом тваIм" – Алесю Загорскаму.

   ЛесIк, Лесь, Лесюк, Алекса, Лекса, /А/Ляхно.

7. АЛIГОР – С.С.65г.

   гл. Альгерда

8. АЛIЗАР – у XVI-XVII ст.ст. 7 разоў сустракаецца на тэрыторыI Берасьцейшчыны ды Гародзеншчыны /А.УсьцIновIч. АнтрапанIмIя Берасьцейшчыны I Гродзеншчыны. Мн., 1975, далей: У.А.75 г./
   - АлIзар ГанIловIч, 1541 г.

   АлIзарка, ЛIзарчук, АлIч, АлIз, Зарук.

9. АЛЬБIН – АльбIн СтэповIч, сьвятар I паэт мIжваеннага часу /XX ст./

- Альбін-Рагвал-Алёйза Крыштофіч з Дубатыньня, персанаж рамана "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" У.Караткевіча

Боля, Альбась /-усь/, Альбук, Альба /ш./

10. АЛЬБУТ - агульна вядома, што ў назвах паселішчаў, рэкаў і г.д., утвораных ад імя заснавальніка /адкрывальніка/ ці названых так у сувязі з нейкай падзеяй, захавалася багата формаў асабовых уласных іменаў, якія са штодзеннага жыцьця зьніклі.

Далей яны будуць пазначацца літарай Т - з тапанімікі.

гл.Альбіна /Аль/

11. АЛЬВАС - Т; Б.А.69г.

Алюк, Альвук, Альчык, Ал/ь/, Альваш.

12. АЛЬГЕРД - вялікі князь Вялікага княства Літоўскага; пры ім беларуская мова была абвешчаная дзяржаўнай;
- Абуховіч-Бандынэлі, пісьменьнік XIX ст.

Альгесь, Гердась, Алюк, Альгук, Альгей, Альгаш.

13. АЛЬГІМОНТ - унук Альгерда, сын Скіргайлы, князь навагрудзкі.

Моньцік, Манук, Алюк, Алюсь, Альгей, Гімант, Монташ.

14. АМБРАЖЭЙ - на працягу ХУІ ст. ўзгадваецца 78 разоў.
- А.Вайцаховіч, 1556 г. /У.А.75г./;
- А.Станіслававіч, ваявода біскупа віленскага ХУІ ст.

Брожык, Брасюк, Амрос, Амброс, Абрук, Амбрук, Абражэй.

15. АНЁЛ - А.Доўгірд, мысьляр ХУШ-XIX ст.ст.

Нёлка, Нялук, Анёлак, Анук, Анчык, Нёлаш.

16. АНТОН - імя вельмі папулярнае сярод беларусаў пад час міжваеннага адраджэньня;
у помніках ХУІ-ХУШ ст.ст. ўзгадваецца 62 разы.
- А.Мішкевіч, 1528 г. /Б.А.66г./;
- А.Абрамовіч, кампазытар XIX ст.;
- А.Луцкевіч, палітычны ды культурны дзеяч XX ст.

Антонка, Антось, Антанюк, Антуш /Антук, Ант/

17. АПАЛІНАР - А.Гараўскі, мастак XIX ст.;
- А.Пупко, знакаміты разьбяр. XX ст.

Польцік, Палюк, Полюсь, Поль, Апалін, Полюш.

18. АПАНАС - у ХУІ-ХУШ ст.ст. ўзгадваецца 77 разоў.
- А.Аніcімовіч, 1528 г.
- А.Андруховіч, 1552 г. /Б.А.66г./

Понік, Панук, Поньцік, Панчук, Пан, Панча, Панаш.

19. АПІМАХ - у ХУІ ст. зарэгістраванае 2 разы.
- А.Бухавецкі, магілеўскі шляхціц, 1578г. /Б.А.66г./

Пімась, Пімук, Пімча, Апімаш.

20. АРСЕНЬ - Б.А.66г. /рэканструяванае па сьпісе беларускіх прозьвішчаў, далей - СПБ/
- А.Загорны, дыктар беларускай праграмы радыёстанцыі "Свабода".

Арсенька, Арсенік, Арсюк, Аршук, Арчук, Арча, Арсей.

21. АСТАХ - 67 разоў зарэгістраванае у помніках ХУІ-ХУШ ст.
- А.Валовіч, стараста берасцейскі, ХУІ ст.;
- А.Тышкевіч, археоляг, ХІХ ст.

Сташка, Сташук, Стах, Сташэня, Асташ /Астап/.

22. АСТРАВІТ - Т

23. АСТРАМЕЧ - Т.

24. АЎГЕН - А.Хлябцэвіч, нашанІўскі пісьменьнік;
- А.Бартуль, паэта міжваеннага часу;
- А.Барычэўскі, літаратуразнаўца, ХХ ст.

Генік, Аўгук, Аўгусь, Аўгуль, Аўгіяш, Геньош.

25. АЎГУСТЫН - на працягу ХУІ ст. ўзгадваецца 110 разоў.
/Тустын, Яўгустын/
- А.Багдановіч, 1567 г.
- А.Тамковіч, 1567 г. /Б.А.66г./

Аўгусьнік, Аўгусьць, Аўгуль, Аўгута, Густын.

... Б ...

1. БАГДАН - у ХУІ-ХУШ ст.ст. зафіксаванае ў помніках 256 разоў.
- Багдан Карсаковіч, баярын мсьціслаўскі, /ХУІст./;
- Багдан Лаўрыновіч, ваяр Васілііскай харугвы, 1567г.
- персанаж "Хрыстоса..." У.Каратневіча.
- Багдан Андрусішын, беларуска-амерыканскі песьняр.

Данчык, Данік, Багданік, Багданка, Данук, Данусь, Богдаш, Богусь, Багдак, Багдаш.

2. БАГРЫМ - Т. Беларускае прозьвішча (Паўлюк Багрым - выдатны паэт ХІХ ст. з трагічным лёсам)

3. БАГУМІЛ - Маскевіч, ваяр і пісьменьнік ХУП ст.

Богця, Богусь, Богась, Богут, Богша,

4. БАГУН - Б.А.69г.
гл.Багуміла.

5. БАГУСЛАЎ - толькі на Гародзеншчыне ды Берасьцейшчыне ў ХУІ-ХУШ ст.ст. ўзгадваецца 44 разы.
- Багуслаў Марковіч, 1541 г.;
- Багуслаў Аляшэўскі, 1670г. /У.А. 75г./

Славук; гл. Багуміла.

6. БАЗЫЛЬ /ВАСІЛЬ/ - у ХУІ-ХУШ ст.ст. ўзгадваецца 163 разы.
- Гаругарда, 1582 г.;
- Базыль Ляцецкі, 1564г. /У.А.75г./

Базылік, Базыльчык, Базылюк, Базыльчук, Базыяш, Базыляш, Базылян, Базылька.

7. БАЛЦАР - у ХУІ ст. зафіксаваны 4 разы.
- Балцар Валіцкі, 1567г.;
- Балцар Хрышчановіч, 1567г. /Б.А.66г./

Балько, Балец, Балюк, Баль, Балаш.

8. БАЛЯСЛАЎ - Калышка, палкоўнік у паўстаньні 1863 г.;
- Баляслаў Пачопка, літаратар міжваеннага часу ХХ ст.

Боля, Балюк, Болюш, Славук ...,

9. БАНАДЫКТ /БЕНЯШ/ - у ХУІ-ХУШ ст.ст. ўзгадваецца І9 разоў.
- Банадыкт ВаловІч, дзяржаўца ВалоскІ, І567г.;
- Банадыкт ЖдановІч, І582 г. /Б.А.66г./
- Банадыкт ДыбоўскІ, навуковец, удзельнІк паўстаньня І863 г.

Банась, Банук, Банадусь, Банась /Беняш/

І0. БАРКУЛАВ - Т.;
- Баркулаб Корсак, кІроўца роты беларускага войска ў бІтве пад Вулай І Дуброўнай 24.І.І564г.

Барця, Барук, Баркуль, Баркаш.

ІІ. БАРНАТ - узгадваецца 27 разоў у ХУІ ст.
- Барнат БагдановІч, І528 г.;
- Барнат РемашкевІч, І567г. /Б.А.66г./

БарцІк, Барнась, Барнук, Барнар, Байнар, Барнаш.

І2. БАРТАШ - зарэгІстраванае ў ХУІ-ХУШ ст.ст. ІІ7 разоў.
- Барташ ПрасвІловІч, І528 г.;
- Барташ Тур, І567 г. /Б.А.66г./

Барця, БарцІк, Бартук, Бартуль, Барча, Барт, Бартуш.

ІЗ. БЕЛАПОЛЬ - "Легенды І паданьнІ". ст.78

І4. БЕРАЧ - Т.

І5. БОГУТ /БОГУШ/ - БагацІвІновІч, І40І г.;
- Богуш БарысовІч, І54І г. /У.А.75г./

Богдзя, Багук, Богусь, Богуць, Богаш,...

І6. БРАНІСЛАЎ - Б.ЗалескІ, мастак І пІсьменьнІк пач. XIX ст.;
- БранІслаў ТарашкевІч, навуковец, грамадзкІ І палІтычны дзеяч XX ст.

БронІк, БронІсь, Брончык, Славук, Бранук, Бронча.

І7. БРАСЛАЎ - легендарны князь /"Легенды І паданьнІ"/.
гл. Брачыслава.

І8. БРАЧЫСЛАЎ - вялІкІ князь полацкІ, бацька Ўсяслава Чарадзея.

Бра/т/чык, Братук, Братуль, Брацей.

І9. БУДА - Б.А.69г.

БудзІк, Будзька, Буд, Будась, Будай, Будаш.

20. БУДАВЕЙ /БУДАВЕСТ/ - выданьне "Беларуская анамастыка. Мн.І977 далей: Бел.ан.77г.
- легендарны вялІкІ гетман.

Будзька, ВесьцІк, Веська, ВесІк, Вест, Вястун, Будаш.

2І. БУДЗІВІД - князь ВялІкага княства ЛІтоўскага.

ДзІвук, ДзІвар, ДзІваш; гл. Буду.

22. БУДЗІМЕР - легендарны князь.

Марук, Мерча, Мераш; гл.Буду.

23 БУДРЫС - С.С.65 г.

24. БУДСЛАЎ - Т.

Славук, гл.Буду

# З НАШАЕ ПОШТЫ

АДЭЛЯ МАРЭ[illegible]

## ЯК НА НАШЫМ СЬВЯЦЕ "ТАЛАКА" БЫЛА ...

Хутка ўжо зIма сыходзIць.
I на ейны адыход
ЗагадалI ў гаркаме
ГарадкI склIкаць народ.
"Што пачулI мы той раз? –
Будзе масьленIца ў нас!"
"Шыш, – бубнIць мая душа, –
Пагукаем мы сьпярша".
I па ўсей па БеларусI
Разлятеўся голас у скрусе:
"Дасылайце кнIгI, песьнI,
Дысэртацы I, браты,
Ну а я ўжо на мейсцы
Разьбяруся – што куды.
До нам спацI! Ужо час
ЗапрасIць вясну да нас!"
Тэлефон гудзIць, як чмель
Увесь вечар, увесь дзень.
Прыязджаюць у адведкI
БеларусI маей дзеткI.
I гавораць хто што можа.
"У вас гуканьне...? Дапаможам!"
Гавару па тэлефоне:
"Мне мIжгорад. Дайце Волю", –
Не зваляю дурака –
У "Талаце" своя рука.
Воля болей не драмала:
"Будуць песьнI...Песень мала?
А мо дзеяньне прывезьцI?
ПравалIцца мне на мейсцы,
КалI ўсе мы рукI зложам".
...Хто тады нам дапаможа?

А ў гаркаме увесь час:
"Чым парадуеце нас?"
Мы сцэнар на стол паклалI.
"Все прекрасно. Так и знали.
Только, может быть, вначале
Нам поставить з вёски хор?
У нас з ними дагавор."
"Будзе хор, але жа потым."
"Як хаціце. За работу!"
ПрацавалI мы з ахвотай
Недарэмна дзень пры днI,
А за ўсе мае турботы
Iнтэрната выдалI.
Праўда, толькI на паперы
ПадпIсалI па чарзе,
Потым выштурхалI ў дзьверы:
ПадпIсалI, – ды ня ўсе!
ПадказалI – пасьля сьвята
Будзе вынIкаў вIдно.
"Пастарайцеся, рабяты,
З намI разам – заадно."
ПрацавалI да зьнямогI,
АбабIлI ўсе парогI;
Мець да сьвята незалIшне
БеларускIя афIшы.
Усё пасьпелI мы як раз,
Заўтра сьвята – ў добры час!
Удзень – на працы. Мне – званок:
"Хто дазволIў? – як папрок –
Хто паклIкаў "Талаку"?
Даць па шыI дураку!
...Нам з абкома пазванIлI
I усIх предупредIлI.
Едзе сто, а то I болей...
Ну поплачете!" "ДаволI...,"
"Будзе мIтынг – мы ўсIх вас
Пазвальняем у той жа час.
То ж такая бяка-бука!"
Бяру хлопцаў на парукI.
Трубкай "плясь" па тэлефоне!
Ну а ён жа звонIць, звонIць!

П

Дзея йдзе. СумелIсь дзеткI:
Лезуць прагныя кабеткI,
Лезуць дзядзькI ў капелюхах.

"Ты куда?" "Ды мне б паслухаць".
І натоўп вакол пляцоўкі
Шчыльна стаў, але ж нялоўка,
Бо нікому не відаць
І нічога ні чуваць.
Дзея скончана... Замінка.
Непрывабная карцінка:
Разыходзіцца ці не?
Сум агортвае мяне.

Час мінае, час бяжыць...
"Талака" жа не сьпяшыць.
І чакае, так як я
Уся партыйная гайня,
Сам начальнік КДБ
З таямніцай на ілбе,
Дзядзькі ў штацкім, дзядзькі ў строях
У кішэнях рукі точаць,
І чырвоныя фуражкі...
Вой-вой-вой! Авохці! Страшна...




x x x

Люд гаротны, люд зьнямелы,
Для цябе гучаць са сцэны
Беларускія вясьнянкі,
Словы, жарты, забаўлянкі,
Гукі скрыпкі і гітары -
Разьбівайцеся па парах
І скачыце хто як можа,
Не шкадуйце ботаў, ножак...
- Вас вітае "Талака".

Слоў - крыніца. Дум - рака...
І ціхенька пад шумок
Самвыдатаўскі лісток
Прадалі табе і мне.
Сам начальнік КДБ
Не адмовіўся чытаць:
"Дазваляю". Тьфу! Псямаць!
Во пранесла, дык пранесла!
Во пралезла, дык пралезла!
"Третий номер БНФ
Разошелся по толпе!"

Сказ няпоўным быў бы гэткім,
Каб забылася я, дзеткі,
На малойцаў з ДНД:
Рукі сьціснуты ў злабе,
Па расейску чыста-чыста:
"Вот же националисты!
Завернуть бы вам головы!
Написать бы Соколову!
Как в провинцию пролезли?
Счас дадим им!"
"На вось - трэсьні!
Бо спужаліся партыйцы:
"Бойку зладзяць? Нам жа тыцнуць!
Дзе такія знойдзем мейсцы,
Калі скінуць з нашых крэслаў?
Хіба ёсьць яшчэ краіна,
Каб народ зьгінаў так сьпіны
Для сваіх уладароў -
Дармаедаў і аслоў?"

Пусть запомнит "Талака" -
Бойня сдержана...пока".

Ш

На наступны дзень адразу
Па высокім па наказе
У гаркам іду адказваць
"Как прошел народный праздник".
Білі-білі дзьве гадзіны:
"Снять вас надо. Сказ единый."
"Зьняць за што?"
"За то, что вы под эгидою горкома
... Свае ладзіце правы.
... Свае ладзіце законы.
Есть у нас одна печать!
Самиздат ваш..."
"Што?" "Маўчаць!"
"Вы нас не предупредили.
Как могли?!" І - білі-білі.
Не рукамі - далібог!
Але дай Ім толькі волю,
То яны за шыю "хоп",
І не бачыць мне ніколі
Ні лясочкаў беларускіх,
Ні азераў беларускіх,
Хіба толькі "талакоўцаў",
Як схапілі б гэтых хлопцаў.
Але дзякуй богу, час -
Ён працуе і на нас!

"Заявление пишите
И работу поищите"
Як шукаць /халеры-трасцы!/,
Калі гоняць з кожнай працы:
- Русский выучите. - Потом!
Приходите на работу!
... Інтэрнат? Адказ кароткі -
"Ён унядрыцца трэба ўпотай,
Каб праводзіць там работу,
Ганьбіць усім савецкі лад,
Бо яна - як той салдат,
Толькі арміі варожай".
... Дзе ж жыць і скуль браць грошы?
Шчэ праз дзень, па распарадку
Выклікаюць бацьку, матку.
Што яны пачулі там -
Хай рашае кожны сам.

Ды павінна быць выснова:
Нам цяпер усім вядома,
Што баіцца, як агня,
Партакратыі гайня
"Талакі" /і ў тым жа родзе/.

Думай,
Думай,
Мой народзе!

1989 г.

**БЕЛАРУСКІ ІМЕНЬНІК**

**АЛЬГЕРД ПАКАЛЮБІЧ**

**/працяг з 8 бачыны/**

25. БУЖА /Н/ - Т.
Бузька, Бузук, Бужач, Бужча.

26. БУЙВІД - Б.А.69г.; Т.
Буйко, Буюк, Буйны, Буяш.

27. БУЛАК - Б.А.69г.

28. БУС - павадыр старажытных пляменау на тэрыторыі Беларусі.
Бусь, Бусьлік, Бусюк, Бусел, Бусян.

29. БУСЯК - Т. гл. Буса.

30. БУТАУТ - сын вялікага князя Альгерда.
Буцька, Бутась, Буцюк, Буташ.

31. БУТРЫМ – легендарны князь /"Легенды і паданьні"/;
– у XVI–XVIII ст.ст. узгадваецца 245 разоў.
– Бутрым [illegible], 1528 г.;
– Бутрым [illegible], 1528г. /Б.А.[illegible]г./

Бутька, Бутрась, Бутрык, Бутрак.

32. БЯЛЕН – Б.А.63г.; 69г.

Лянок, Бельчук, Белук, Белут, Бельча, Беляй.

/працяг у наступным нумары/

СЬЦЕРАЖЫСЯ ПАТРЫЯТЫЧНЫХ КЛЮБАЎ

/працяг, пачатак на бачыне 2/

# Foreign Report

Published by The Economist Publications
25 St James's Street, London SW1A 1HG
2052 February 16 1989

## Beware of patriotic clubs

We have acquired a secret briefing document of the Soviet Communist party instructing members how to deal with the new wave of informal "patriotic clubs" which, in the eyes of party hardliners, constitute a major peril to the party's *status quo*. The document refers specifically to Byelorussia. We believe similar documents exist for other republics.

After identifying the principal groups, and giving a biased account of their activities, the document calls for a determined effort at re-education. The party says:

- **Ideological committees should be established in workplaces to identify "extremist elements and groups" and to restore the "social-political situation" by**

...нікаў цьвёрдай лініі, зьяўляюцца галоўнай небясьпекай для партыйнага "статус кво". Дакумант тычыцца Беларусі. Але мяркуем, што падобныя дакуманты існуюць і для іншых рэспублік.

У інструкцыі адзначаюцца галоўныя групоўкі, даецца тэндэнцыйная характарыстыка іхняе дзейнасьці, дакумант заклікае да рашучых высілкаў дзеля перавыхаваньня. Партыя кажа:

*На прадпрыемствах павінны быць створаныя ідэалягічныя камітэты для выяўленьня экстрэмісцкіх элементаў і груповак; яны павінны аднаўляць "грамадзка-палітычнай сытуацыяй", прымусіўшы экстрэмістаў прызнаць свае памылкі.

*Калі гэта ня ўдасца, то экстрэмісцкія элемэнты павінны растлумачыць перад калектывам свае "нясталыя ўчынкі і пазыцыю", якія неабходна асуджаць.

*Бацькі дзяцей, якія ўваходзяць у незалежныя суполкі, павінны быць выкліканыя да партыйных кіраўнікоў для гутаркі пра паводзіны дзяцей і папярэджаньня пра "небясьпеку нацыяналістычных тэндэнцыяў у іхніх дзяцей".

*Партыя павінна больш дагаджаць народу. Ёй неабходна прааналізаваць "палітычную і маральную сытуацыю" і больш клапаціцца пра тое каб задаволіць надзённыя патрэбы, найперш асабістыя, і пазбавіцца бюракратызму.

*"Палітычна сталыя" члены партыі павінны быць прымацаваныя да мясцовых газэтаў і часапісаў. Ідэолягі павінны тлумачыць журналістам, якія падтрымліваюць незалежныя суполкі, памылковасьць іхніх паводзінаў.

*Партыйныя функцыянэры на прадпрыемствах, дзе ёсьць памнажальная тэхніка, павінны быць асабліва пільнымі, каб не дапусьціць ніякага "самвыдавецтва".

У дакуманце тлумачыцца, што асноўнай мэтай партыі зьяўляецца паляпшэньне вытворчай дысцыпліны і рост прадукцыйнасьці працы, забесьпячэньне таго, каб партыя служыла народу і садзейнічала распаўсюджваньню "нэгатыўных адносінаў" да Народнага Фронту за перабудову, які трымаецца незалежных поглядаў, сярод простых людзей.